# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 43 (1745) ГОД XXXIV БЕЛАСТОК, 22 КАСТРЫЧНІКА 1989 г. Цана 100 зл.




## Кожны з іх — васілёк

Прыехалі да нас — паважныя, сканцэнтраваныя, я б сказала, нават крыху насцярожаныя. Вядома ж — большасць з іх, з гэтага 20-асабовага беларуска-амерыканскага танцавальнага калектыву „Васілёк“, упершыню ступіла гэтым летам на зямлю Беласточчыны. Які гэта край, якія людзі? Як аднясуцца тут да іх, амерыканцаў усё ж?!

Тады яшчэ ведалі толькі тое, што афіцыйна запрасіў іх Ваяводскі дом культуры, што апекавацца імі будуць „Дубіны“, з якімі пазнаёміліся ў мінулым годзе ў Амерыцы, калі наш эстрадны калектыў там выступаў. Ведалі таксама, што пастаянным месцам іх знаходжання будзе Гайнаўка, ну, і што давядзецца шмат танцаваць.

Калі толькі беларуска-амерыканскай моладзі стала вядома аб запрашэнні на Беласточчыну, многія, хаця ўжо і занядбалі танец, пачалі інтэнсіўна хадзіць на рэпетыцыі. Цікаўнасць? Настальгія? Здавалася б, якая можа быць настальгія па ўтрачанай айчыне, калі боль-

(Працяг на стар. 6)



Сустрэча на аэрадроме Варшава-Акэнце. У цэнтры (сядзіць) Вера Бартуль.

## БЕЛАРУСІКІ


Zwoliński Przemysław, Język białoruski a ukraiński w opiniach gramatyków XVI--XIX w. *Sprawozdania z Prac Naukowych Wydziału Nauk Społecznych PAN* 1968, z. 4, s. 50—55.

(Ż. Ż.), Janka Bryl. *Litery* 1969, nr 9, s. 19, il.

Żakow A. G., Sowriemiennaja sowietskaja poema, Mińsk 1981. Rec. Zbyrowski Zygmunt, *Przegląd Rusycystyczny* 1983, z. 3/4, s. 207—212.

Zniunyja pesni, oprac. A. S. Lis i V. I. Jalatau, Mińsk 1974. Rec. Sielicki Franciszek, *Literatura Ludowa* 1976, nr 2, s. 54—55

Zuczkiewicz W. A., Proischożdienije gieograficzeskich nazwanij (toponimika) Biełorussii, Mińsk 1964. Rec. Kondratiuk Michał, *Acta Baltico-Slavica* T. 2, 1965, s. 497—501.

Zuckevyć V. A.: Kratkij toponimićeskij slovar Belarusi, Mińsk 1974. Rec. Bubak J., *Onomastica* R. 22, 1977, s. 288—290.

Zukow P. I., Rybactwo na Białorusi, oprac. z ros. A(lęksander) Kozłowski, *Gospodarka Rybna* 1966, nr 6, s. 20—21; nr 7. s 20

Zukowicz Wasil, Spotykamy się rzadziej niż ongiś (w). — Skowronek wiosną, żuraw na jesieni (w.) — Niesprawiedliwa śmierci, często bywasz (w), tł. Antonina Mioduchowska, *Kamena* 1979 nr 23 s. 3.

Zukrowski Wojciech, Nad Switezią (spotkanie z pisarzami Białorusi), *Kierunki* 1976, nr 45, s. 1, 6—7, il.

Zuraúski A. I.: Historyja Biełaruskaj litaraturnaj mowy, T. 1, Mińsk 1967. Rec. Obrębska-Jabłońska Antonina, *Slavia Orientalis* 1970, nr 2, s. 226—228.

Zuraúski Arkadź: Polskija elemienty u paradyhmie dziejasłowa starabiełaruskaj piśmiennasci. *Studia z Filologii Polskiej i Słowiańskiej* t. 20, 1981, s. 253—260.

Zuraúski Arkadź, Zauvahi ab movie belaruskaha pierakladu „Karotkaha apisannia chroniki Polskaj", *Acta Baltico-Slavica* t. 16, 1984, s. 309—316.

Zygariew Józef, Aktywność nieustająca (działalność białoruskiej organizacji kombatanckiej), rozm. przepr. Anatol Ryszczuk, *Za Wolność i Lud* 1976, nr 28, s. 3—4, il.


## ПАВЕДАМЛЕННЕ

**Беластоцкага прэсавага выдавецтва і рэдакцыі „Нівы"**

**У далейшым растуць цэны і ў сувязі з гэтым павялічваюцца кошты выдавання нашай газеты, незалежна ад рэдакцыі і выдавецтва. У такой сітуацыі мы вымушаны павысіць цану нашага тыднёвіка са 100 зл. на 150 зл. пачынаючы ад № 44, які выйдзе з датай 29 кастрычніка г.г. Хочам чытачоў паінфармаваць, што цана газетнай паперы ў апошні час узрасла двухкратна (ад 1 верасня г.г. з 300 зл. на 620 зл. г.зн. на 106%, а ад 1 кастрычніка з 620 зл. на 800 зл., г.зн. на 29%). Колькі будзе яна каштаваць у будучым цяжка прадбачыць. Таксама Беластоцкі паліграфічны камбінат пачынаючы ад 1 лістапада г.г. выраішыў павысіць цану друку „Нівы" на 76%. Апрача таго ўзрастаюць на 130% кошты паштовых і тэлекамунікацыйных паслуг. Даражэе транспарт, энергія і паліва, узрастаюць зарплатныя і ганарарыйныя фонды. У такіх умовах павышэнне цаны экземпляра „Нівы" з'яўляецца прыкрай неабходнасцю.**

**Індывідуальныя падпісчыкі будуць атрымліваць газету па той цане, па якой яны выпісвалі, да таго часу, пакуль не скончыцца тэрмін падпіскі.**



Зʼезд выпускнікоў Агульнаадукацыйнага ліцэя імя Браніслава Тарашкевіча ў Бельску адкрыў Мікалай Врублеўскі, адзін з руплівых арганізатараў гэтага і папярэдніх спатканняў сяброў-аднашкольнікаў.

## СЯБРОЎСКАЕ СПАТКАННЕ

23 і 24 верасня ў Бельску адбыўся III зʼезд выпускнікоў Агульнаадукацыйнага ліцэя імя Браніслава Тарашкевіча. Прыехала звыш 300 асоб з усяе Польшчы, і з тых, што закончылі ліцэй яшчэ ў пяцідзесятых гадах, і з тых, што развіталіся са школай зусім нядаўна. Папярэднія два зʼезды праводзіліся ў 1974 і 1980 гадах.

Сёлета мінула 45 гадоў ад заснавання школы. У 1944 годзе ў Бельску паўстала чатырохгадовая беларуская гімназія і двухгадовы ліцэй. Потым быў двухгадовы перапынак у дзейнасці школы, а ў 1949 годзе ўзнік у Бельску ліцэй з беларускай мовай навучання. Яго дырэктарам стаў Яраслаў Кастыцэвіч, чалавек надзвычай заслужаны для беларускага школьніцтва на Беласточчыне.

Пра гісторыю школы і яе дасягненні гаварыла ва ўводным рэфераце дырэктарка Зінаіда Навіцкая. Варта прыгадаць, што атэстат сталасці атрымала ў бельскім ліцэі каля 2500 выпускнікоў. Школа ганарыцца вялікімі дасягненнямі ў прадметных алімпіядах: звыш сямідзесяці яе выхаванкаў прымала ўдзел у цэнтральных элімінацыях, шаснаццаць з іх стала лаўрэатамі алімпіядаў. Вялікая ў тым заслуга дырэктара Аляксея Карпюка, які клапатліва і ахвярна працягваў і развіваў асветніцкія традыцыі незабыўнага Яраслава Кастыцэвіча. Сёлета дырэктар Карпюк занядужаў на здароўі і не змог прыняць удзелу ў зʼездзе. Удзельнікі спаткання паслалі яму тэлеграму з віншаваннямі і пажаданнямі добрага здароўя.

Перад удзельнікамі зʼезда выступілі таксама і запрошаныя госці. Былі прадстаўнікі Савецкага дома культуры і навукі ў Варшаве, савецкі консул, журналісты „Камсамольскай праўды" і прэсагенцтва „Новости", сакратар Ваяводскага камітэта ПАРП, прадстаўнік Міністэрства нацыянальнай адукацыі, пасол у Сейм з Беласточчыны Яўген Чыквін. Вядомы наш паэт Віктар Швед гаварыў у сваім усхваляваным выступленні пра наш нацыянальны лёс тут на




**(Працяг. Пачатак у папярэднім нумары.)**

А што ў 1926 годзе? З біяграфіі Тарашкевіча ведаем, што „Луцкевіч неаднойчы адыходзіў ад супрацоўніцтва, ды зноў вяртаўся". Ён быў супраць таго, каб у цэнтральнай рэдакцыі грамадаўскіх выдавецтваў працаваў Ян Бабровіч, прысланы ЦК КПЗБ. Луцкевіч не згаджаўся на прысутнасць у гэтым месцы такога „камісара". Далей, Тарашкевіч пісаў, што ў 1926 годзе ў Луцкевіча нарастала „reakcja na okres sowietofilski". Сёння гэта не здзіўляе, таму што ў тым годзе ў многіх беларускіх савецкіх часопісах паявіліся патрабаванні змагацца з „нацыянал-дэмакратамі". А ў кастрычніку 1926 года першы сакратар ЦК КП(б)Б Аляксандр Крыніцкі на X зʼездзе партыі Беларусі ўжо выразна фармуляваў, як „па-бальшавіцку" трэ знішчаць нацыянал-дэмакратаў. Што значыла „па-бальшавіцку" — толькі сёння мы дакладна даведаліся.

Несумненна, кіраўнікі Грамады таксама многае ведалі, прадбачвалі, да чаго ўсё гэта ідзе, і глядзелі з трывогай на атачэнне. Але ў тым перыядзе былі яны зусім запалонены руплівым павелічэннем грамадаўскага руху, працавалі дзень і ноч, ведаючы, што кшталтуюць гісторыю — бо Грамада мела вялікі ўплыў не толькі на беларускае сялянства ў Польшчы. Ідэі Грамады знайшлі яркае адлюстраванне ў беларускай публіцыстыцы і мастацкай літаратуры.

Дык вось, у 1926 годзе, працуючы ў грамадаўскіх газетах, Луцкевіч, як бачым, у дзейнасці гэтай арганізацыі іграў зусім неэпізадычную ролю. І больш таго, калі кіраўніцтва Грамады было арыштавана (студзень 1927), ён у кастрычніку 1927 надалей быў адным з першых грамадаўскіх публіцыстаў і дапамагаў правесці выбары да мясцовых уладаў. Аб гэтым пісалі, асабліва многа ў віленскіх газетах.

У тым жа 1927 годзе перад тым, як Луцкевіча арыштавалі, ён ужо ведаў, што восенню гэтага года адбыўся пленум ЦК КПЗБ, на якім па нацыянальнаму пытанню прынялі пастанову поўнасцю ў духу палітыкі КП(б)Б. Іменна тады В. Самойла ў газеце „Наша праца" апублікаваў адкрыты ліст (№ 7 ад 22.X.1927), у якім паведамляў, што „Выступае з усіх беларускіх таварыстваў". Я гавару тут пра паставу Самойлы невыпадкова. Думаю, што не іншыя былі адносіны да КПЗБ таксама і Луцкевіча. Адзін і другі не маглі пагадзіцца з палітыкай КПЗБ па нацыянальнаму пытанню; палітыкай, якая развівалася ў напрамку нігілізму ды



ца будзе па беларускай народнай музыцы.

Вытанцаваўся „Васілёк“ у нас. Далікатна і па-майстэрску выкананыя ім беларускія народныя танцы „Полька Янка“, „Вянок“, жартоўны танец-гульня „Шапкі“ ды і іншыя танцы будзілі спачатку здзіўленне, што танцуюць іх амерыканцы, а пасля — захапленне. Спадабаўся „Васілёк“ на Беласточчыне. Хочацца верыць, што і ў іх аб пабыце ў нас засталіся някепскія ўражанні, хаця мо і не ўсё выйшла так, як хацелася б. Усё ж убачылі яны зблізка, як і чым жывуць тутэйшыя беларусы, як святкуюць Купалле бэгэкатоўцы ў Белавежы і басаўцы ў Супраслі. Пазнаёміліся з бельскімі „Васілёчкамі“ і былі на фэсце ў Гайнаўцы. Сустрэліся з вучнямі Беларускіх ліцэяў у Бельску і Гайнаўцы і выступілі ў Дзяржаўнай філармоніі ды на Свяце беларускай песні ў Беластоку.

Цяпер мараць пра паездку ў Мінск, на Беларусь, і каб абавязкова там выступіць. Мары гэтыя пачынаюць набіраць рэальных кшталтаў, а д-р Ала Орса-Рамана непакоіцца: „Яны ж там маюць такія добрыя калектывы, лепшыя ад нашага...“

Думаю, што справа тут не ў тым, хто лепшы, а хто горшы. Справа тут мае аспект намнога шырэйшы.

Развіталіся нашы мілыя госці з Беластоцкай зямлёю. А я ўспамінаю іх і думаю, што не было вось сярод іх ніводнага чалавека, які б насіў нейкае хітрае амерыканскае імя, такое хаця б, якое часта даюць беластоцкія беларусы сваім дзецям. Не было сярод іх Патрыцый, Анджэлак, Робертаў, хаця такое імя, магчыма, набілітавала б іх у Амерыцы.

Без комплексаў носяць яны мілагучныя беларускія імёны Алеся, Паўлінка, Аня, Вера, Галя, Нона, Юрка, Коля, Павел, Віктар. Такія імёны далі ім бацькі, бо хацелі, каб дзеці іх засталіся беларусамі, — і беларусамі яны выраслі. „Люблю цябе за тое, што гаворыш так, як мая маці“, — сказаў мне на развітанне Юрка Азарка.

А я, калі так глядзела на маладых амерыканцаў і бачыла, як іх звінныя постаці віруюць у „Лявонісе“, і чула, як яны, народжаныя за тысячы кіламетраў ад радзімы бацькоў і дзядоў, гамоняць між сабою па-беларуску, уяўляла мімволі, што гэтыя хлопцы і дзяўчаты — цудоўны букет беларускіх кветак, якія прыпаднеслі нам амерыканскія беларусы, і кожны з іх — васілёк, крышынка далёкай прывабнай айчыны, якая назаўсёды пакінула ў іх часцінку свайго блакіту.

**Ала Чачуга**

Фота Янкі Целушэцкага і амерыканскай моладзі





макратызацыі, а наадварот. Аб падобных настроях Сталіна выразна сведчыць урывак з яго выступлення па нацыянальнаму пытанню на X з'ездзе РКП(б). „Я тут маю запіску, — гаварыў ён, — што мы, камуністы, штучна насаджаем беларускую нацыянальнасць. Гэта памылковы пагляд, таму што беларуская нацыя існуе. Яна мае сваю мову, адметную ад рускай. У сувязі з гэтым узняць культуру беларускага народа можна толькі на яго роднай мове. Гэткія галасы гадоў пяць таму назад гучалі і аб Украіне, аб украінскай нацыі. Гаварылася, што украінская рэспубліка і украінская нацыя — выдумка немцаў. А між тым ясна, што украінская нацыя існуе і развіццё яе культуры з'яўляецца абавязковым для камуністаў. Нельга ісці супроць гісторыі. Зразумела, што пакуль што ў гарадах Украіны пераважаюць рускія элементы, дык з часам гэтыя гарады будуць непазбежна украінізаваныя. Гадоў сорак таму і Рыга з'яўляла сабой нямецкі горад, аднак у сувязі з тым, што гарады растуць за кошт вёсак, а вёска з'яўляецца перахавальніцай нацыянальнасці, дык зараз Рыга — гэта чыста латышскі горад. Гадоў пяцьдзесят таму ўсе гарады Венгрыі мелі нямецкі характар, а зараз яны мадзьярызаваныя. Тое самае будзе і з Беларуссю, у гарадах якой пакуль што пераважаюць небеларусы.“ [2]

Спецыяльную ўвагу прысвяціў Сталін беларусам і ў гады свайго жудаснага тэрору. Беларусы нароўні з украінцамі панеслі выключныя ахвяры ў гэты час, якія на думку шмат каго з навукоўцаў (у тым ліку і адкрыўцы „Курапат“ Зянона Пазняка) можна ахарактарызаваць у якасці выніку палітыкі антыбеларускага генацыду. Беларускія ахвяры ад сталінізму можна без перабольшвання параўнаць з ахвярамі, якія беларускі народ панёс ад фашызму. Фашызм і сталінізм, гэтыя два жудасныя з'явішчы XX стагоддзя, вельмі падобна, калі не сказаць аднолькава трагічна, запісаліся ў гісторыі беларускага народа.

У гады тэрору амаль цалкам была знішчана беларуская нацыянальная інтэлігенцыя, якая так і не здолела па сапраўднаму нарадзіцца. Часу не хапіла. Перыяд яе фармавання ў 20-я гады не ахапіў жыцця нават аднаго пакалення. Не паспеўшую памацнець маладыя парасткі вырвалі з коранем і бязлітасна знішчылі.

Галоўны змест сталінскага „раманса“ з беларусамі палягае на тым, што „бацьку народаў“ удалося на прыкладзе нашага народа даказаць нібыта дзейнасць яго маніпуляцый у галіне нацыянальнай палітыкі. Сталін мог у асяроддзі сваіх паплечнікаў ганарыцца тым, што пад яго кіраўніцтвам партыя была здольная да кардынальнай змены кірункаў і варункаў развіцця паасобных нацый і дастасавання гэтага развіцця да патрэб таталітарнай дзяржавы. Дэмакратычныя ўступкі нашаму народу, якія праявіліся ў форме беларусізацыі, былі нічым іншым, як толькі замаскіраванай падрыхтоўкай новай хвалі тэрору. Тэрор паставіў беларусаў на грань біялагічнага знішчэння.

Злачынныя эксперыменты на жывым целе беларускага народа паставілі яго ў сітуацыю нацыі, якая паволі знікае з палітычнай карты свету. Шмат хто нават пагаварваў аб прымусовым урастанні беларусаў у „новую гістарычную супольнасць“ — савецкі народ. Беларусы па Сталіну павінны былі першымі далучыцца да рускіх у якасці непарыўнай часткі гэтай новай супольнасці людзей. Гісторыя, аднак, абвяргла грубыя разлікі тырана. Сучаснае беларускае адраджэнне — выразны доказ банкруцтва гэтай злачыннай ідэі.

*(Працяг праз тыдзень)*

## ТАК БЫВАЕ...

### БЕГ

Мірон спяшаўся з працы дадому. Хацеў паспець на гарадскі аўтобус. У Мірона, як у кожнага чалавека, былі свае справы. Вось сёння жонка пойдзе да працы на другую змену, а ўнукі застануцца адны — дачка і зяць яшчэ працуюць. Трохгадовы Валодзька і пяцігадовая Эмілька будуць плакаць, калі дзед не вернецца на час. Думаючы аб іх, дзеду рабілася весялей на душы.

Мірон мінаў жанчыну з каляскай. Агляну́ўся і ўгледзеў, што едзе „яго“ МПК. Мужчына заспяшаўся. Насустрач аўтобусу ехаў малы „фіат“. Як толькі два самаходы зраўняліся з сабой, здарылася нешта неверагоднае: адарвалася кола ў малога „фіата“. Самаход ударыў у дрэва. Кола паляцела і трапіла Мірону ў лоб. Мірон упаў, нежывы.

— Мой Божа, — паківаў галавой лекар, які прыбыў са „скорай“ дапамогай, — каб ты, чалавеча, ведаў, што бяжыш па ўласную смерць, напэўна пачакаў бы другога аўтобуса...

**Аўрора**




### ЧОРТ І ЯЎРЭЙ

У той жа Ласінцы, аб якой успаміналася ўжо папярэднім разам і раней, жыў яўрэй. Да вайны іх было многа ў нашых ваколіцах. Трымалі крамы, карчмы, займаліся рамесніцтвам. Гэты быў гандляром. І вось аднойчы вяртаўся ён дарогаю з Катлоўкі ў Ласінку, прыкупіўшы ў сялян з навакольных вёсак тавару. Была позняя восень, дарогі размоклыя. Жалязняк глыбока ўрэзваўся ў балоцістую дарогу, і конь, напружваючы ўсе сілы, ледзь яго выцягваў. Вечарэла. Восенню цямнее вельмі хутка. Яўрэй, змучаны цэладзённым падарожжам, падрэмліваў, конь то ішоў, то прыставаў. Раптам конь зафыркаў і падаў назад. Чалавек ад раптоўнага тармажэння падняў галаву і ў тым часе з рову дайшло авечае бляянне. Зняў свяцілку, заматаў за клямцу лейчыну і зыйшоў у пабочную дарогі. Конь, не чуючы панукавання і пасвіствання пугі, затрымаўся, рады адпачынку. Яўрэй, разганяючы агеньчыкам ліхтара змрок, узіраўся ў пабочыну, аж згледзеў там барана, які выцягнуўся ў рове і ляніва ляжаў, нават і не думаючы ўцякаць. Тлусты, выпасены. Памацаў за воўну — даўжэзная, не стрыжаная летам. Заіскрыліся ў яўрэя вочы ад такога дармовага шчасця. Разглянуўся па баках, вакол было ціха.

— Мабыць, нехта з торгу вяртаўся выпіўшы і не згледзеў, калі жывёліна выскачыла з воза, — падумаў чалавек.

Пашукаў у кельні вяроўкі, каб звязаць барану ногі. Яўрэя здзівіла толькі адно — надта ж лёгкі паказаўся яму як на сваю велічыню. Палажыў яго ззаду ў кельню, падсунуў сена ды свіснуў радасна на каня. А сам у думках прыбытак на грошы пералічваў. Конь, які пачаткова імкліва рвануў воз, крыху адпачыўшы, раптам пачаў запавольваць. Воз ішоў штораз цяжэй. Яўрэя гэта здзівіла. Падумаў, што можа нешта ў колы ўлезла і пачало яго тармазіць. Агледзеў усе чатыры, але нічога там не было. Воз, аднак, выразна ішоў штораз павальней. Зір за сябе яўрэй, памацаў рукою там, дзе ляжаў баран, і аж валасы дуба сталі. Баран ужо займаў амаль увесь воз. Аставалася толькі кавалачак вольнага месца, дзе чалавек сядзеў. Увачавідкі разросся.

— Няйначай нячыстая сіла, — падумаў ён перапалохана.

Хацеў ужо з воза саскочыць і ў поле ўцякаць, але каня шкада зрабілася. І тавару крыху прыкупленага было. І прыпомніў ён тады, што хрысціяне крыжам усякае зло адганяюць. А баран быццам бы насмейваўся з яго, неяк дзіўна паблейваў і ўсё рос. Конь ужо нават і з месца скранцца не мог. Але як тут перахрысціцца, калі яўрэй не ўмее, бо ў крыж не верыць. Пераламаў ён тады пужарне на дзве часткі, злажыў іх на знак крыжа і кінуў на барана, гаворачы дрыжачым голасам:

— Баран, баран, маеш табе крыж на дарогу!

Павеяла ветрам, баран раптам пачаў рабіцца ўсё меншы ды меншы, пакуль зусім з пасвістам не прапаў. Так яно ўжо ў жыцці ёсць — калі прыдзе трывога, то і яўрэй да Бога.

**Міхась Шаховіч**




### ПІРАЖКІ З ФАРШАМ З МОРКВЫ

Зрабіць цеста з мукі, вады і яек. Раскатаць блін таўшчынёю ў паўпальца, змазаць яго топленым маслам, скруціць у рулет, парэзаць на кружкі таўшчынёю пальца, кружок раскатаць і зрабіць піражкі з фаршам з морквы.

Фарш робім наступным чынам: чысцім моркву і варым яе ў мясным булёне. Тады моркву трэба дробна пасячы, перамяшаць з пасечанымі крутымі яйкамі і маслам, пасаліць.

На цеста трэба узяць: 1 кг мукі, 3 яйкі, 250 грамаў растопленага масла, ваду (паводле патрэбы). На фарш: 5—6 морквін, 3 яйкі, 100 г масла.

### МАРЫНАВАНЫЯ БУРАКІ

Узяць буракі з вельмі насычаным чырвоным колерам, памыць іх шчоткай, не знімаючы скуркі і не абразаючы хвосцікаў, укінуць у кіпецень, зварыць і астудзіць. Тады буракі ачысціць, нарэзаць скрылёчкамі, палажыць у слоік і заліць астуджаным марынадам. Слоік накрыць пергаментнай паперай, завязаць і захоўваць у сухім памяшканні.

Марынад падрыхтоўваем наступным чынам. У каструльку ўліваем вінны воцат, ваду, дадаем цукар, соль, пахучы або чорны перац, гваздзіку, лаўровы лісток. Усё закіпяціць, а пасля астудзіць.

На 1 кг буракоў бярэм: 2,5 шклянкі віннага воцату, 2,5 шклянкі вады, лыжку солі, 10 зярнят перцу, 6 гваздзік, 2 лаўровыя лісткі, цукар па смаку.

### МАЛОЧНЫ СУП З МОРКВАЙ

Ачышчаную і памытую моркву нарэзаць на скрылёчкі, палажыць у каструльку, даліць 1/4 шклянкі вады, дадаць масла, соль і цукар і тушыць 10 мінут. Тады ўсыпаць рыс, заліць пяццю шклянкамі вады, накрыць каструльку і варыць 40—50 мінут, пасля чаго разам з адварам працерці праз сіта. Атрыманае пюрэ развесці гарачым малаком і пасаліць па смаку. Перад падачай на стол суп запраўляць маслам. Падаваць з грэнкамі. Суп можна падрыхтоўваць на адным малацэ.

На 5—6 морквін бярэм: паўшклянкі рысу, паўтары лыжкі масла, шклянку малака, соль і цукар па смаку.

**Гаспадыня**




Дарагое Сэрцайка!

Доўга я шукаў свайго шчасця. Меў нямала дзяўчат, якія мне падабаліся больш ці менш, але не было дагэтуль такой, якую б я пакахаў без памяці. Адна дзяўчына, з якой я сустракаўся больш года, нават нарадзіла маё дзіця. Меркаваў спачатку з ёю ажаніцца, але пасля ўсё неяк развеялася, пачуццё пераўтварылася ў нянавісць, і так засталася яна адна, а я плачу аліменты. Праўда, здарылася гэта гадоў пяць таму назад, і я ўсё думаў, што яшчэ ажанюся з ёю, калі не спаткаю свайго вялікага кахання. Але вось жа здарылася так, што ў сваім 35-гадовым жыцці я сустрэў дзяўчыну, у параўнанні з якой памерклі ўсе мае ранейшыя сімпатыі і знаёмыя.

Дзяўчына была высокая, шчуплая, чарнявая. Была не толькі прыгожая, умела быць сябрам і ў бядзе і ў радасці. Закахаўся я без памяці. Ужо вось мінае паўгода, як мы жывем разам, і ў бліжэйшыя месяцы намерваліся ўзяць шлюб.

І было лета, і было цудоўна. Мы паехалі з Галінкай адпачыць у Гданьск. Была цудоўная пагода, калі мы вярталіся маім самаходам дахаты. Я быў шчаслівы ад кахання. Усе дрэвы ўсміхаліся мне насустрач. Думаю, што тое ж адчувала і Галінка. Яна адшпіліла рамні і прытулілася да мяне, ад часу да часу цалавала мяне па шыі. Неспадзявана я ўбачыў наперадзе круты паварот, спрабаваў затармазіць. Самаход вылецеў на сярэдзіну дарогі і стукнуўся з самаходам, які ехаў насупраць, з другога боку. Калі б Галінка была прышпіленая рамянямі, нічога з ёй не здарылася б. Але ж вось дзверцы ў маёй машыны адчыніліся з яе боку, і яна выпала на дарогу, проста пад колы грузавіка, які імчаўся за намі. Мне амаль нічога не сталася, а яе, непрытомную, забралі ў бальніцу.

Дарагое Сэрцайка! Здарылася горшае ад смерці. Маё жыццё скончылася. І скончылася не таму, што мая дзяўчына загінула. Галінка жыве, але яна страшэнна паранена, мае пераламаны хрыбет. Яна яшчэ нічога не ведае, але мне сказалі, што яна ніколі ў жыцці не стане на ўласныя ногі. Калі неяк выйдзе, то ў лепшым выпадку чакае яе інвалідская каляска. Але я яе кахаю і такую. І гатоў жаніцца з ёю ў любы момант.

Дарагое Сэрцайка! Не таму пішу табе, каб запытацца, ці варта жаніцца з ёю, а проста таму, можа, што хачу перад некім выплакацца. Я ж ведаю, што ўсё гэта здарылася па маёй віне, і гэта найбольш мяне мучыць, не дае спакою. Я не магу знайсці сабе месца, не магу жыць, калі падумаю, што яна праз мяне не будзе хадзіць. Павер мне, Сэрцайка, што я не кіруюся ні нейкай там літасцю ці абавязкам, а толькі вялікім, бясконцым каханнем да маёй найдаражэйшай дзяўчыны... Хачу быць я ёю да канца нашых дзён.

**Павел**

Павел! Тое, што здарылася і што перажываеш ты ў даны момант, настолькі страшнае, што нават цяжка сабе ўявіць. Сапраўды, якое ж гэта жыццё для чалавека, які толькі што быў малады, здаровы і шчаслівы, а вось цяпер апынуўся на калясцы. Разумею твой боль і пачуццё віны, але ж і Галінка тут крыху завініла. Усё ж такі, каб была не адшпільвала рамнёў і дазволіла табе спакойна весці машыну, магло б наогул не быць ніякага выпадку, а ўжо напэўна не вывалілася б яна з машыны. Так што, лічы, вінаваты вы абое. Цяпер застаецца толькі пагадзіцца з лёсам і прыняць жыццё такім, якім яно ёсць. Лічы, што ты сваё ўжо адгуляў. І цяпер наступілі тыя горшыя дні. У жыцці ж ніколі не бывае так, каб уся жыццёвая дарога была выслана ружамі: раз на возе, раз пад возам, кажа жыццёвая мудрасць. Думаю, што ажаніцца заўсёды варта, калі засталася хоць нейкая кропля кахання. Веру табе, што гэта горшае, чым смерць, аднак жа жыццё бывае мацнейшае за смерць. І калі яно чалавеку дадзена, значыць пражыць яго трэба.

**Сэрцайка**




Астроне! Мне прыснілася, што я прыйшла да сяброўкі, на яе кватэру. Высветлілася, што кватэра якраз па рамонце. Усе пакоі памаляваныя, усюды новая мэбля. Кватэра выглядае вельмі прыгожа.

Тады я пераходжу на кухню, і тут выгляд кухні намнога горшы. Праўда, кухня, відаць, была рамантавана, але тут зусім няма мэблі. Тут неяк дзіўна пуста. На сценках ляжыць пліта, у адным месцы яна палопалася. І сніцца мне далей, што я выйшла з гэтай кватэры і пайшла дахаты. Што можа абазначаць мой сон?

**Аля**

Аля! Усё ж такі твой сон няпэўны. Абазначае нейкую цяжкую працу наперамен з дробнымі клопатамі. Раз будзе лепш, другі раз — горш.

А мне, Астроне, прыснілася заўчора сваячка. Быццам бы я была ў яе ў гасцях. Сон быў нейкі трывожны, у другой палове гэтага сну я бачу сябе ў нейкай чорнай пелярыне.

Я падумала, прачнуўшыся, што гэты сон мой будзе кепскі. І сапраўды. Вечарам мне наказалі, што цяжка захварэла мая цётка. Пэўна, гэта ўжо мой сон спраўдзіўся.

**Вера**

Што датычыцца сну Веры, дык сапраўды, гэтая чорная пелярына магла прысніцца на цётчыну хваробу.

**Астрон**

Зорка
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

Андрэй Выдмінскі

## Пошукі

**(Урывак з яшчэ не надрукаванай кнігі „Як я адкрыў Амерыку“. Падзеі адбываюцца на Мазурах некалькі дзесяткаў гадоў назад.)**

— Хольдзі няма з самага ранку, — Экі сказаў такім голасам, быццам убачыў чорта на ровары.

— Цёткі Сапарыхі няма ўжо некалькі тыдняў, — пацiснуў я плячыма, не бачачы ў зніknенні Хольдзі нічога асаблівага.

Мне самому таксама часта здаралася знікаць з самага ранку з дому і нічога не здарылася. Хіба што тата будзе злы і тады чапляецца без усялякай прычыны.

Экі не звярнуў на гэта ніякай увагі.

— Мае мама і тата ўсюды яго шукалі. Па ўсёй вёсцы распытвалі! Ніхто не ведае, дзе гэты хлапец! Ведаеш? Можа ён ужо дзе мёртвы?

— Аб чым ты гаворыш? Гэта ж твой брат! Як ты можаш наогул так думаць?

— А што, як яго ўжо няма!... Мама ўсё плача і плача.

— А тата?

— Міттагэсен... Ну, тата, цяпер есць...

— Ведаю, аб чым ты гаворыш, — перапыніў я яго. Дзядзька навучыў мяне трохі па-нямецку яшчэ зімою.

(Працяг на стар. 10)

Максім Танк

### ЛІСЦЕ КАШТАНАЎ

За шэрым схіленым парканам
Скрыпіць пясок сырых дарог,
Спадае медны ліст каштанаў
На жоўты стоптаны мурог.

Ідзеш, яго рукамі ловіш,
Злавіўшы, пусціш, хай ляціць,
Зноў не шумець яму ў дуброве,
Вясенніх шолахаў не піць.

І сумаваць яшчэ так рана,
Калі ўдаль маніць сцежак гладзь,
Калі на шум лясны ў тумане
Умееш песняй адказаць.

Калі так хочацца смяяцца,
Што бачыш ты і чуеш ты,
Як ціха сыплюцца праз пальцы
Каштанаў звонкія лісты.




Квінтэт з Орлі. Удзельніцы конкурсу „Беларуская песня 89“ для школьнікаў. Фота Я. Чэрнякевіч.

## Дзякуем за падарунак

Неяк аднойчы ў рэдакцыю зайшоў наш даўні сябар і карэспандэнт дзядзька Эдвард Шчасновіч з вёскі Шчасновічы, што каля Бабікаў. На гэты раз дзядзька прынёс „Зорцы“ падарунак, тры вельмі старыя кніжкі для дзяцей.

— Гэта кніжкі яшчэ з мінулага стагоддзя, — сказаў дзядзька Эдвард. — Яны ўжо моцна зачытаны, а я не вельмі і памятаю, ад якога часу яны ў нашай хаце. Вазьміце. Можа нейкае цікавае апавяданне надрукуеце нашым дзецям. Няхай прачытаюць.

Кніжкі аказаліся сапраўды вельмі даўнімі. Шмат яны прайшлі ў сваім жыцці. Звеадалі і долю і нядолю. Але нарэшце трапілі ў добрыя, дбайныя рукі. На кніжках ужо няма арыгінальных вокладак, а ў адной з іх — нават першых старонак. Але кніжкі старанна аднаўлены, з саматробнымі новымі (можа, зробленымі яшчэ перад вайною) вокладкамі, падклееныя ў шматлікіх месцах. Так што кніжкі можна нармальна прачытаць. Адна з іх — „Сказки для детей“ Н. Гарына, выдадзеная ў С. — Пецярбургу ў 1909 годзе. Другая — „Стилистические задачи для низших и средних классов“, выдадзеная таксама ў С. — Пецярбургу ў 1899 годзе. А трэцяя кніжка — з малюнкамі, з вельмі прыгожымі ініцыяламі на пачатку кожнага раздзела аказалася казкамі братоў Грым. Цяпер ужо вядомыя і вельмі папулярныя казкі напісаны ў кніжцы яшчэ па старым рускім правапісе, з ерамі і яцямі. А сярод казак такія вядомыя, як „Воўк і сямёра казлянятак“, „Браток і сястрычка“, „Чырвоная шапачка“, „Залатагалоўка“ і шмат іншых.

Дзякуем Эдварду Шчасновічу за падарунак і прапануем з гэтай старой кніжкі ў перакладзе на беларускую мову казку „Залатагалоўка“.

Браты Грым

## Залатагалоўка

### КАЗКА

Жыла-была на свеце адна маленькая дзяўчынка. Звалі яе Залатагалоўка, таму што ў яе былі цудоўныя залатыя валасы.

Аднойчы пайшла Залатагалоўка ў лес ды неяк не заўважыла, што заблудзілася. Пачала шукаць дарогі дадому, так і не знайшла, а замест гэтага натknулася раптам на нейкую хатку. Глядзіць, дзверы адчынены, заглянула ў сярэдзіну — нікога няма. Яна і ўвайшла.

А ў гэтай хатцы жылі тры мядзведзі. Адзін мядзведзь — тата, звалі яго Міхайла. Ён быў вялікі і кудлаты. Другая — мядзведзіха. Яна была трошкі меншай і звалі яе Настасся. Трэці быў маленькі мядзведзік, і звалі яго Міхаська.

Мядзведзяў не было дома. Яны пайшлі ў лес.

У хатцы было два пакоі: адзін — сталовы, другі — спальня.

Дзяўчынка ўвайшла ў сталовы пакой і ўбачыла на стале тры міскі са стравою. Першая міска, вельмі вялікая, была Міхайлава, другая міска, трошкі меншая — Настассіна, а трэцяя, маленькая сіняя місачка — была Міхаськава. Каля кожнай міскі ляжалі лыжкі — большая, сярэдняя і маленькая.

Дзяўчынка ўзяла самую вялікую лыжку і пасёрбала стравы з самай вялікай міскі; потым узяла сярэднюю лыжку і пасёрбала з сярэдняй міскі; потым узяла маленькую лыжачку і пасёрбала з маленькай місачкі. І Міхаськава страва здалася ёй найсмачнейшай.

Дзяўчынка захацела сесці і ўбачыла ля стала тры крэслы: адно вялікае, Міхайлава, другое меншае — Настассіна і трэ-

(Працяг на стар. 10)

## Вершы Віктара Шведа

### ЛАГІЧНЫ АДКАЗ

— На ўроку маем гонар
Паслухаць, што Валодзя
Раскажа пра вучоных
З мінулага стагоддзя.

— Цяжка расказваць толкам, —
Азваўся вучань з жалем. —
Сказаць магу я толькі,
Што ўсе ўжо паўміралі.

### ХАЧУ РАСЦІ ТАКСАМА

Навошта, дарагая,
Ты падліваеш кветкі?
— Расці ім памагаю,
Кахаценькая дзетка.

Праз момант бачыць Басю
Замочаную мама.
— Вадой я абліліся —
Хачу расці таксама.

### МУЛ І ФІАТ

У луг папалі гарадскі
Маленькі фіат і мул-скаціна.
Мул запытаў: — Хто ты такі?
На гэта фіат: — Аўтамашына.

— Калі сябе мізэрны фіат
Машынаю назваў спакойна, —
Канём магу быць акурат, —
Зарагатаў мул непрыстойна.

### ЯКІ Ж ЛЕКАР З НЕДАРЭКІ?

— Кім ў жыцці хацеў бы
быць? —
Пытаюць Ваню-недарэку.
У ложку ён яшчэ ляжыць
Ды кажа: — Будзе з мяне
лекар!

— Ты ж неахайны і гультай,
Рук не памыеш без прынукі.
Лекар у працы, памятай,
Бесперапынна мые рукі.

## Вясёлы куточак

— ✻ —

— Ну як, Пеця, было ў школе? Ты ўсё рабіў, што настаўніца задавала?

— А як я мог рабіць усё, калі тры гадзіны ў кутку стаяў!

— ✻ —

— Гэты гадзіннік, што вы мне ўчора прадалі, ішоў толькі 24 гадзіны і перастаў! — наракае пакупнік.

— А што вы сабе думаеце? — тлумачыцца прадавец. — Вы таксама, каб столькі пахадзілі, вымушаны былі б адпачываць.

— ✻ —

— На колькі ж гэты поезд можа спазняцца?! — нервуецца пасажыр.

— Супакойцеся, — кажа сусед. — Нічога страшнага. Ваш білет важны ўвесь дзень.

— ✻ —

— Ты прызнаўся ў хаце, што атрымаў двойку па матэматыцы?

— Так.

— І што твае бацькі?

— Нічога. Іх не было ў хаце.

## Залатагалоўка

(Працяг са стар. 9)

цяе маленькае з сіняй падушачкай — Міхаськава.

Яна ўзлезла на вялікае крэсла і ўпала; потым села на сярэдняе крэсла — на ім было нявыгадна; нарэшце, села на маленькае крэселка і засмяялася — так было прыемна. Яна ўзяла сіненькую місачку на калені і пачала есці. З'ела ўсю страву і пачала гушкацца на крэсле.

Раптам крэселка праламалася, і Залатагалоўка ўпала на падлогу. Тады яна ўстала, падняла крэселка і пайшла ў другі пакой.

Там стаялі тры ложкі: адно вялізнае — Міхайлава, другое сярэдняе — Настассіна, трэцяе маленькае — Міхаськава. Дзяўчынка легла на вялікае — было занадта прасторна; легла на сярэдняе — было занадта высока; легла на маленькае — ложачка аказалася акурат, і яна заснула.

А мядзведзі прыйшлі дадому галодныя і захацелі папалуднаваць. Вялікі мядзведзь узяў сваю вялікую міску, глянуў у яе і зароў страшным голасам:

— Хто еў з маёй міскі?

Настасся паглядзела ў сваю міску і зараўла ўжо не так моцна:

— Хто еў з маёй міскі?

А Міхаська ўбачыў сваю пустую місачку і запішчаў тоненькім галаском:

— Хто еў з маёй міскі і ўсё з'еў?

Міхайла глянуў на сваё крэсла і зароў страшным голасам:

— Хто сядзеў на маім крэсле і перасунуў яго на іншае месца?

Настасся глянула на сваё крэсла і зараўла не так ужо голасна:

— Хто сядзеў на маім крэсле і перасунуў яго на іншае месца?

Міхаська глянуў на сваё паламанае крэселка і прапішчаў:

— Хто сядзеў на маім крэсле і зламаў яго?!

Мядзведзі прыйшлі ў спальню.

— Хто клаўся на маю пасцель і памяў яе?! — зароў Міхайла страшным голасам.

— Хто клаўся на маю пасцель і пямяў яе?! — закрычала Настасся не так голасна.

А Міхаська падставіў зэдлічак, палез на сваё ложачка і запішчаў тоненькім галаском:

— Хто клаўся на маю пасцель і памяў яе?!

І раптам ён убачыў дзяўчынку і запішчаў так, быццам яго рэжуць:

— Вось яна!... Трымайце яе!... Вось яна!... Вось яна!... Ай-яй-яй!... Трымайце!...

І, падскочыўшы да яе, ён ужо збіраўся ўкусіць яе, але ў гэты момант Залатагалоўка прачнулася. Убачыўшы мядзведзяў, яна страшна спалохалася і кінулася да акна.

Акно было расчынена, і яна паспела выскачыць праз яго.

З рыкам кінуліся былі мядзведзі за ёю, але яна была ўжо далёка, і яны не дагналі яе.

## Пошукі

(Працяг са стар. 9)

Дзядзька Бронік сцвердзіў аднойчы, што я ў адпаведным узросце, каб пачаць вывучаць нейкую іншаземную мову! Не магу сказаць, каб гэта была сістэматычная навука, і каб я ўжо ведаў нямецкую мову. Але некаторыя словы і нават звароты я ўжо ведаў.

— Можа, ён пайшоў да кагосьці з сяброў? — спыніў я маўчанне.

— Ён ні з кім не гаворыць, такі ён, — махнуў рукой Экі. — Ён толькі робіць з дрэва такія, ну, ведаеш... І чытае. Ён нават па-нямецку чытае. І дужы ён. Мяне заўсёды падужае.

— Дык можа ён недзе ляжыць на лужку з кніжкаю, га? Можа заснуў і цяпер смачна спіць у траве? Але гэта было б нездарова. Мой тата так кажа. Ад такога ляжання можна схапіць сонечны ўдар.

— А што гэта такое?

— Такая хвароба. Галава тады баліць, трэба ісці ў бальніцу і наогул кепска з табою.

— Ведаеш што? Давай пойдзем на возера. Можа, ён недзе там...

Пайшлі.

Спачатку сярэдзінай, праз пагорак з глыбокім ровам на вяршыні, аж да месца, дзе заліў даходзіў на адлегласць дзесяці метраў да жвіраванай дарогі, якая злучала Варпуны з Зындакамі, а потым, вяртаючыся, берагам возера. Мы дакладна перашукалі ўсе кусты алешніку, прадзерліся праз трыснёг да падножжа пояса белага пяску, дзе можна было спакойна паляжаць і не баяцца, каб нехта цябе не ўбачыў і не загадаў ісці дадому.

Хольдзі прапаў. Дзядзька Бронік сказаў бы: „Як камень у ваду".

Ад гэтага шукання нам зрабілася горача. Дык мы з мастка скочылі ў ваду — Экі на ногі — каб трошкі ахаладзіцца.

Мы ішлі ўздоўж шляху на балота. Потым трэба было скакаць з купіны на купіну і два разы мне давялося ўляцець правай нагой па калена. Экі, калі гэта ўбачыў, толькі першы раз здушыў у сабе смех.

— Пачакай, — крыкнуў я, — яшчэ і ты ўляціш па шыю.

Раптам мне прыйшло ў галаву, што Хольдзі мог пайсці ў лес, каб пашукаць драўніны на свае фігуркі. Я сказаў аб гэтым Экі.

— Не, па дрэва яму хадзіць не трэба, ён яго мае поўна ў майстэрні.

У гэтым месцы рэчка мела чатыры-пяць метраў шырыні, але была вельмі плыткая, відаць было мулістае дно і часам касякі рыбак.

Мы прыцягнулі вялікую кучу ачарэту, паклалі на яго свае адзенне. Я плюснуўся ў ваду на пласк, каб не апынуцца ў муле, і, пхаючы перад сабою плыцік з адзеннем, пераплыў рэчку.

Экі плыў за мною.

Мы абсушыліся на сонцы, нацягнулі трусы, апрануліся і пачалі думаць, куды пайсці.

Нарэшце Экі трапіў на сцяжыну.

— Ты быў тут калі-небудзь? — пытаюся.

— Быў тры разы. Лодкаю. Усёй сям'ёй. Толькі без мамі. Яна баіцца плаваць на лодцы.

Вакол раслі высокія сосны, але лес густы не быў. Мы адыходзілі ад возера, узбіраючыся на стромы пагорак, так, як вяла сцяжынка.

Экі пачаў клікаць брата, але толькі дакучлівае рэха паўтарала за ім: „Хольдзі! Хольдзі!"

Ён ахрып і закашляўся некалькі разоў. А тым часам мы ўвайшлі на вяршыню ўзгорка. Ніжэй, з боку, дзе пачыналіся дубы і букі, мы заўважылі старыя муры з чырвонай цэглы.

— Хадзі туды, — сказаў я.

Мы збеглі па стоку.

Тут быў пакінуты аднапавярховы дом без вокан і дзвярэй. Гэта значыць, па іх засталіся толькі праёміны. Два каменныя ўсходкі вялі на развалены ганак. Перад дзвярыма ляжалі нейкія паіржавелыя пасудзіны, а ля карацейшай сцяны мы заўважылі калодзеж, зарослы цёмнакарычневым мохам.

Праз аконныя дзіркі не можна было заглянуць у нутро. Мы ўзышлі на ганак і далей у кухню, у якой была разбураная печка, побач ляжала трохі друзу. З кухні вялі маленькія і вузкія дзверы. Я адчыніў іх. За імі была камора з нейкімі паламанымі і панішчанымі рэштакамі полак.

Другі ўваход вёў у вялікі пакой. У ім з-пад кучы друзу стырчала нейкая скрыня.

— Слухай, можа, у гэтай скрыні нешта ёсць? — сказаў я ціха і, не чакаючы адказу, зрабіў крок наперад.

Падлога небяспечна затрашчала.

Экі наблізіўся да мяне.

Потым быў ужо толькі вялікі гармідар, гук і пыл, і мы абодва праваліліся кудысьці.

**Працяг будзе.**



### АДГАДАНКА

У кружкі квадрата ўпішы лічбы ад 1 да 12 так, каб сума ў чатырох кружках кожнага боку была 25. У кружкі шасцівугольніка ўпішы няпарныя лічбы ад 1 да 13 так, каб сума кожных трох кружочкаў па дыяганалі раўнялася таксама 25.


Адрас рэдакцыі: 15-950 Białystok, ul. Wesołowskiego 1, „Зорка".

# РАСТЛУМАЧАЛЬНЫ СЛОЎНІК „НІЎКІ"

**Грымаса** — гучнае насякомае.
**Грэбля** — праца ў сенакос пасля касьбы.
**Грэлка** — печ.
**Грэчка** — жыхарка Грэцыі.
**Губерня** — рот, вусны.
**Гуляш** — чалавек лёгкіх паводзін.
**Гуманіст** — рабочы на заводзе, дзе вырабляецца гума.
**Гусляр** — пастух гусей.
**Гутарка** — працаўніца ў гуце.
**Даверлік** — хлопец, які ходзіць (заляцаецца) да Веры.

„ядань"

## МІНІ—КРЫЖАВАНКА
**(навыварат)**

Характэрнай рысай крыжаванкі з'яўляецца тое, што ўсе словы (апрача аднаго паліндрома) можна чытаць наадварот і пры гэтым маюць яны сваё сэнсавае значэнне. Ніжэй падаецца значэнне слова, чытанага злева направа і навыварат.

**Упоперак:** 3) вялікая карobка — невялікі хваёвы лясок, 5) апарат для размнажэння рукапіснага або машынапіснага тэксту, 9) геаметрычнае цела — від дрэва.

**Уніз:** 1) пячора — гандаль, 2) паморак — спіртны напітак, 3) вугал — растоплены тлушч, 4) рэстаран — нявольнік, 6) дровы для абагрэву — звярыная нага, 7) падатак з часоў прыгону — крывашып, 8) дрыжыкі, адчуванне холаду — будыйскі манах.

**Фёдар Рымашэўскі, Мінск**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будзе разыграна кніжная ўзнагарода.

**Адказ на міні-крыжаванку з № 37:** зараз, шабаш, тамат, Натан, мат, раб.

Кніжную ўзнагароду выйграла Алена Рудко са Смаргоні.



# НІЎКА



## ПАЎТОРНАСЦЬ — НЕ ПАЎТОРНАЯ

585

Навуковыя тэорыі ствараюць вучоныя, але іх ажыццяўляюць часта непісьменныя.

586

Нянавісць часта карыстаецца словам „любоў".

587

Здараецца, што пры дапамозе маны даведваемся праўду.

588

Найлепшай ежай для навукі з'яўляецца свабода.

589

Без рэвізіянізму не можа быць прагрэсу.

590

Не трактуй сваю галаву так, як трактавалі людзі зямлю да Каперніка, бо не вакол яе кружыцца сонца, а яна павінна кружыцца вакол сонца.

591

Мэта навукі — сказаць аб старым новае.

**Алесь Барскі**

## КЛІЕНТ І САМАХОД

На выстаўцы самаходаў у Парыжы кліент прыглядаецца з зацікаўленнем новай мадэлі машыны. Прадавец, заахвочваючы купіць шыкарнае аўта, кажа:

— Гэта цудоўная машына. Цана не надта высокая, сапраўды аплочваецца купіць. Уявіце сабе, што калі выедзеце з Парыжа ў пяць раніцы, то ў Ліёне будзеце ўсяго на пяць гадзін пазней!

— А што мне рабіць у Ліёне а дзесятай?

## КАДРАВАЕ ПЫТАННЕ

— Мікола, ці ты гэта? Дай на цябе пагляджу! Здаецца, ты... Гэта ж колькі гадоў прайшло!...

— Прывітанне, Васіль! І цябе не пазнаць... Ну, як жывеш?

— Дык як усе... Жонка, дачка, работа, а цяпер яшчэ і дача — так і круцішся ўвесь год.

— А дзе працуеш?

— Наша арганізацыя ў апошні час спецыялізуецца па вырошчванні гародніны і садавіны.

— Вырошчваеце, кажаш... А дзе ж ваша гародніна? І садавіна?... Самы сезон, а ў нашым магазіне вунь як у канцы зімы.

— Ну, ведаеш, гэта не так проста... У нас усё залежыць ад розных прычын — ад надвор'я, ад плану, ад тэхнікі, ад сонечнай радыяцыі... Гэта, брат, не ў жывёлагадоўлі: прывязаў бычкі да кармушкі ды чакай прывагаў. Ну, а ты ў якой галіне даеш план?

— Жывёлу гадую...

— Ён гадуе!... Не відаць вашай прадукцыі. Дзе ж мяса, каўбасы?

— Сказваюцца цяжкасці росту... Мушу табе сказаць, галоўная бяда ў нас — недахоп кадраў.

— Во і ў нас такое ліха. Няма людзей, некаму працаваць... Ну, спазняюся, бывай здароў. Да сустрэчы.

І былыя студэнты — выпускнікі сельгасакадэміі развіталіся і заспяшаліся на работу — Мікалай Васільевіч у Главк гародніны і садавіны, Васіль Мікалаевіч — у пададдзел маладняку буйнай рагатай жывёлы аграпрома.

**Васіль Феранц**

## СПЯВАЕМ БЕЛАРУСКІЯ ПЕСНІ

### ОЙ, СІВЫ КОНЬ БЯЖЫЦЬ
**(народная)**

Ой, сівы конь бяжыць,
Ў яго бела грыва.
Ой, спанаравілась,
Ой, спанаравілась
Мне тая дзеўчына.

Не так та дзеўчына,
Як яе лічанька.
— Ой, падай, дзеўчына,
Ой, падай, дзеўчына,
Мне белу ручаньку.

Ручаньку падала,
Тры словы сказала:
— Няхай бы я жыла,
Няхай бы я жыла,
Кахання не знала.

Бо тое каханне
З вечара да рання.
Як сонейка ўзыйдзе,
Як сонейка ўзыйдзе —
Каханне разыйдзе...

* Апошнія тры радкі кожнай страфы паўтараюцца.

Не вельмі скора, грацыёзна ♩=126













Лекар: — Спіртное ўжываеце?

Пацыент: — Не, толькі ва ўрачыстых выпадках.

— А што вы лічыце такімі выпадкамі?

— Калі ў мяне ёсць што выпіць.

## СПЯВАЧКА І МАЭСТРА

Кандыдатка на спявачку трывожна пытае ў настаўніка:

— Маэстра, хачу знаць усю праўду. Скажыце, мой голас можа яшчэ калісьці спатрэбіцца?

— Так, чаму ж не! Напрыклад, падчас пажару або караблекрушэння.




Двое лаюцца — трэці не лезь. А то яшчэ запішуць у сведкі.